*Ціхіня развітваецца, але не сыходзіць (стар. 2, 4)*
*The Wall Street Journal: Беларускі прэзідэнт стварае паліцэйскую дзяржаву (стар. 5)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

6 снежня 1996 г. № 93 Кошт свабодны

## З боку ЗША могуць быць санкцыі

**Прадстаўнікі Кангрэса ЗША Сціве Бігун і Чарльз Флікнер знаходзяцца гэтымі днямі ў Мінску з рабочым візітам.**

Яны сустракаюцца з дыпламатамі і палітыкамі з мэтаю вывучыць палітычную сітуацыю ў Беларусі і падрыхтаваць справаздачу для Сената і Палаты прадстаўнікоў ЗША.

Як вядома, амерыканская кіраўніцтва рэзка негатыўна адрэагавала на антыканстытуцыйныя дзеянні беларускага прэзідэнта. Парушэнні ў Беларусі правоў і свабод грамадзян, а таксама антыдэмакратычныя дзеянні ўладаў тояць у сабе пагрозу прыняцця Кангрэсам у адносінах да нашай краіны шэрагу санкцый. Некаторыя эксперты мяркуюць, што гэта адаб'ецца не толькі на міждзяржаўных адносінах ЗША з Беларуссю, але і на прыватных бізнес-кантактах.

Падчас свайго знаходжання ў Мінску высокапастаўленыя амерыканскія госці не сталі сустракацца з прадстаўнікамі новага беларускага «парламента».

*БелаПАН*

## Расійскі візіт ветлівасці

**Учора, 5 снежня, Мінск наведала дэлегацыя расійскіх дэпутатаў (11 чалавек).**

Узначальваў дэлегацыю віцэ-спікер Дзярждумы Сяргей Бабурын. Раніцай у чацвер ён сустрэўся з кіраўніком лукашэнкаўскага парламента Анатолем Малафеевым. Бабурын заявіў журналістам, што расійскія дэпутаты не ставілі перад сабой задачы вывучаць палітычную сітуацыю, якая склалася ў Беларусі пасля рэферэндуму. Па яго словах, гэтая сустрэча — звычайная парламенцкая праца.

Планавалася, што расійская дэлегацыя будзе знаходзіцца ў Мінску чатыры дні. Але ўжо сёння, на другі дзень візіту, расіяне павінны былі ад'ехаць у Маскву, каб паспець на абмеркаванне федэральнага бюджэту.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

## Камітэт абароны дэмакратыі

*заклікае да палітычнага супрацьстаяння*

У мінулую сераду у Мінску прайшоў сход грамадскасці ў абарону дэмакратыі і Канстытуцыі 1994 года. У заяве, прынятай сходам, грамадзянаў Беларусі заклікаюць да актыўнага палітычнага супрацьстаяння рэжыму прэзідэнта Лукашэнкі.

На сход, які адбываўся ў Доме літаратара, сабраліся больш за 200 прадстаўнікоў партыяў, грамадскіх арганізацыяў, вядомыя палітычныя і грамадскія дзеячы. Паседжанне ўзначалілі старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, віцэ-спікер Генадзь Карпенка, намеснік старшыні БНФ Юры Хадыка, пісьменнік Янка Брыль ды іншыя дзеячы. З ацэнкамі сітуацыі выступілі Васіль Шлындзікаў, Іван Нікітчанка, Віктар Ганчар, Уладзімір Анцулевіч, Мечыслаў Грыб, Міхаіл Пастухоў, Мікалай Статкевіч, Юры Хадыка.

Абмеркаваўшы становішча ў краіне, вынікі так званага рэферэндуму і ўвогуле курс прэзідэнта А.Лукашэнкі, удзельнікі сходу прынялі вельмі жорсткую палітычную заяву, сэнс якой у абвяшчэнні актыўнага процідзеяння сённяшняй уладзе. У прыватнасці, у заяве канстатуецца: *«У выніку грубейшых парушэнняў дзеючай Канстытуцыі 1994 года і заканадаўства аб праведзенні рэферэндуму, а таксама фальсіфікацыі вынікаў рэферэндуму, незаконнага спынення дзейнасці Вярхоўнага Савета А.Лукашэнкам і яго атачэннем здзейснены дзяржаўны пераварот і спынена дэмакратычнае развіццё грамадства»*. Як следства, сцвярджаецца ў заяве, беларускі прэзідэнт *«паставіў сябе па-за законам, а краіну завёў у тупік і да ізаляцыі ад сусветнай супольнасці»*.

Сход заклікаў грамадзянаў Беларусі да згуртавання вакол Камітэта абароны дэмакратыі з мэтаю палітычнага супрацьстаяння рэжыму. Першымі пад заявай паставілі свае подпісы Сямён Шарэцкі, Генадзь Карпенка, Юры Хадыка, Мікалай Статкевіч, Віктар Ганчар, іншыя ўдзельнікі сходу.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

*На здымку: Ю.Хадыка і С.Шарэцкі.*

# Ізаляцыя пачалася

**Сітуацыя ў Беларусі была адным з важнейшых пытанняў, якія абмяркоўваліся на саміце АБСЕ ў Лісабоне (2—3 снежня), дзе сабраліся кіраўнікі 52 краінаў, што ўваходзяць у Арганізацыю па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе.**

Прэзідэнт Лукашэнка патрапіў не проста пад крытыку, а атрымаў сапраўдную абструкцыю. З ім не пажадаў сустрэцца ні адзін з заходніх палітыкаў. Лукашэнка спрабаваў апраўдвацца, але ў выніку не знайшоў аніўчога лепшага, як пакінуць залу паседжанняў.

Яшчэ перад пачаткам саміту старшыня АБСЕ **Флавіё Коці** заявіў, што паводзіны беларускіх уладаў *«супярэчаць дэмакратычным прынцыпам і абавязкам, якія ўзяла на сябе Беларусь перад прыёмам у склад членаў Арганізацыі»*. Ф.Коці зазначыў, у прыватнасці, што рэферэндум у Беларусі быў праведзены *«з парушэннем законаў і Канстытуцыі»*. Прэм'ер Ірландыі **Джон Буртон** ад імя краінаў Еўрапейскага Саюзу выказаў пратэст кіраўніку Беларусі і заклікаў да аднаўлення дэмакратыі ў краіне.

Віцэ-прэзідэнт Злучаных Штатаў **Альберт Гор** у сваёй прамове на Лісабонскім саміце адзначыў, што *«без свабоды імкненне народаў і краінаў да лепшага жыцця і бяспекі не можа быць рэалізаванае». «Вось чаму я далучаюся да многіх у гэтай зале, хто занепакоены нядаўнімі дзеяннямі ўладаў у Беларусі і Сербіі, якія супярэчаць прынцыпам АБСЕ»*, — падкрэсліў віцэ-прэзідэнт ЗША.

Трэба прызнаць, што **Аляксандр Лукашэнка** цвёрда трымаўся сваіх прынцыпаў. Крытыку заходніх палітыкаў ён назваў умяшаннем ва ўнутраныя справы яго краіны. *«У Беларусі сітуацыя цалкам нармальная. Рэферэндум адбыўся згодна з Канстытуцыяй і заканадаўствам і ўсе спробы прызнаць яго вынікі нелегітымнымі лічу беспадстаўнымі*, — гаварыў Лукашэнка. — *У нас няма палітычнага крызісу, а тым больш расколу ў грамадстве. Усе праблемы мы вырашаем выключна мірнымі палітычнымі сродкамі»*. Калі ж нарвежскі рэпарцёр спытаўся, ці існуе ў Беларусі плюралістычная дэмакратыя, Лукашэнка заявіў у адказ: *«Дэмакратыі ў Беларусі больш, чым у вашай краіне, я вас запэўніваю»*.

Лукашэнка таксама паспрачаўся (з дапамогай журналістаў) з прэзідэнтамі Польшчы, Літвы і Украіны. Як вядома, два тыдні таму яны выдалі супольную заяву наконт сітуацыі ў Беларусі. У мінулы панядзелак, як нам стала неафіцыйна вядома, беларуская дэлегацыя ў Лісабоне атрымала ад прадстаўніка адной з гэтых краінаў спіс патрабаванняў, рэалізацыя якіх апраўдала б тэзісы Лукашэнкі аб тым, што «Беларусь ідзе шляхам дэмакратыі» (патрабаванні датычылі перш за ўсё свабоды прэсы і правоў для апазіцыі). У той жа панядзелак польскі, літоўскі ды ўкраінскі прэзідэнты вырашылі стварыць рабочую групу (на чале з міністрамі замежных справаў), якая будзе вызначаць далейшыя крокі ў адносінах да супольнага суседа.

*«Мне соромна, што ўнутраная справай Беларусі займаюцца такія дастойныя палітыкі. Здаецца, у іх хапае ўласных праблемаў і няхай яны імі займаюцца»*, — рэагаваў Аляксандр Лукашэнка. Прэзідэнт Польшчы **Аляксандр Квасьнеўскі** адказаў: *«Гэта сапраўды соромна. Добра было б, каб пра падзеі ў Беларусі можна было гаварыць толькі станоўча»*. У сваім выступленні на форуме АБСЕ сп.Квасьнеўскі шмат месца прысвяціў менавіта беларускаму пытанню. *«Аснойнай умовай для нармалізацыі сітуацыі ў Беларусі з'яўляюцца свабодныя парламенцкія выбары»*, — сказаў польскі прэзідэнт. *«Няма іншай дарогі для стварэння дэмакратычнага парламента. У дэмакратыі большасць мусіць прыслухоўвацца і браць пад увагу голас меншасці. Павінен быць дыялог з апазіцыяй. Усе мусяць прытрымлівацца Канстытуцыі. Правы чалавека і асноўныя свабоды — гэта адзіны шлях у аб'яднаную Еўропу»*, — адзначыў А.Квасьнеўскі. Ён падкрэсліў, што Еўропа хоча бачыць Беларусь незалежнай і дэмакратычнай. Таму ўсе павінны цікавіцца тым, што ў гэтай краіне адбываецца. Польскі прэзідэнт заявіў таксама, што праз дыпламатыя каналы будзе старацца заярнуць увагу сусветнай грамадскасці на падзеі ў Мінску і гэтакім чынам аказаць прэсінг на беларускага прэзідэнта. Якраз пры гэтых словах беларуская дэлегацыя пакідала залу паседжанняў.

*На здымках: беларускія «героі» Лісабона — прэзідэнт Лукашэнка і міністр замежных справаў Сянько.*

АБСЕ, якая вельмі рэдка настолькі крытычна ставіцца да краін — членаў арганізацыі, хацела нават у афіцыйнай заяве запатрабаваць ад беларускага прэзідэнта выканання Канстытуцыі і дэмакратычных працэдураў. Аднак з прычыны таго, што ўсе афіцыйныя дакументы АБСЕ прымаюцца толькі аднагалосна, то дастаткова было «вета» Беларусі і Расіі, каб не дапусціць прыняцця заявы. Затое такі дакумент выдала т.зв. «тройка», якая кіруе міжнароднай палітыкай АБСЕ — г.зн., міністры замежных справаў Венгрыі, Швейцарыі і Даніі (папярэдні, цяперашні і наступны кіраўнікі АБСЕ).

Відавочна, што АБСЕ будзе зараз глядзець, ці вернецца рэжым Лукашэнкі ў рэчышча дэмакратычных і канстытуцыйных прынцыпаў. Калі гэта не адбудзецца, то цалкам верагодна, што Беларусь можа быць пазбаўленая правоў члена АБСЕ, як гэта было зроблена ў 1992 годзе ў дачыненні да новай Югаславіі.

**Марцін СМЯЛОЎСКІ**

## «Дэмакратыі не будзе»

*Так лічаць украінскія дэпутаты*

**Народныя дэпутаты Украіны, якія знаходзіліся некалькі дзён у Беларусі, лічаць уведзеную Лукашэнкам канстытуцыю сведчаннем таго, што «на працягу бліжэйшых гадоў у гэтай рэспубліцы дэмакратыі не будзе».**

На прэс-канферэнцыі ў Кіеве дэпутат Віктар Раенка (фракцыя камуністаў) падкрэсліў, што Беларусь павінна служыць перасцерагаючым прыкладам для Украіны, *«дзе таксама ўзнікаюць калізіі паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі»*.

Народны дэпутат Украіны Анатоль Галаўко (група «Рэформы») лічыць, што ў Беларусі было зроблена ўсё для таго, каб прыватызацыя прайшла ў інтарэсах прэзідэнта і наменклатуры, якая яго акружае. Па словах дэпутата, Беларусь і ў далейшым будзе ісці *«шляхам таталітарнага размеркавання ўласнасці, дзе народ пазбаўлены свайё маёмасці»*. Украінскія дэпутаты таксама заявілі, што дзяржаўныя *«сродкі масавай інфармацыі Беларусі спрацавалі супраць свайго народа»*. Яны таксама лічаць, што *«Расія адыграла не лепшую ролю ў беларускім крызісе ўлады»*.

Украінскія парламентары знаходзіліся ў Беларусі 21-23 лістапада па запрашэнні старшыні ВС Сямёна Шарэцкага.

*УНІАН—БелаПАН*

**У ГЭТУЮ НЯДЗЕЛЮ** (8 снежня) на плошчы Незалежнасці ў Мінску на 12:00 запланаваная сустрэча з апазіцыйнымі дэпутатамі Вярхоўнага Савета. Мэта акцыі — заявіць пратэст фальсіфікацыям на рэферэндуме і незаконнаму ўвядзенню лукашэнкаўскай канстытуцыі. **Б.П.**

**УЧОРА** прэзідэнт Лукашэнка падпісаў указ аб адмене другога тура давыбараў у Вярхоўны Савет. 8 снежня будуць праводзіцца выбары толькі ў мясцовыя саветы ў Мінску і Маладзечне. **А.Д.**

СВАБОДА
6 снежня 1996 г., № 93

Вадим КАЗНАЧЕЕВ

# Тихиня прощается, но не уходит

## Председатель КС подал заявление об отставке, принять которую некому

Не скрою: отправляясь в Конституционный суд, я не был уверен, увижу ли того самого человека, который еще недавно был готов твердо и неуклонно отстаивать Конституцию и право, или же человека сломленного и деморализованного, готового сбросить с плеч все проблемы и самоустраниться. Эти сомнения подогревались тем, что поводом для пресс-конференции председателя КС В.Тихини, которая состоялась 4 ноября, явилось его заявление об отставке.

Мои опасения развеялись довольно скоро. Перед журналистами предстал хотя и усталый, прошедший курс лечения после психологического срыва, но и волевой, честный юрист, осознающий ответственность за судьбу страны и готовый сделать все, что в его силах, чтобы власти вернулись в правовое поле.

В заявлении об отставке В.Тихиня подчеркнул, что Конституция 1994 г. провозгласила человека высшей ценностью общества и государства и подтвердил свою присягу на верность этой Конституции. Лукашенковский референдум расценивается в заявлении как *«акт правового вандализма»*. В условиях, когда президентскому проекту конституции, вопреки заключению КС, придан обязательный характер, В.Тихиня счел невозможным для себя выполнять обязанности председателя Конституционного суда.

Необходимо особо подчеркнуть, что заявление Тихини об отставке является не сдачей позиции, а ее подтверждением — по той простой причине, что подано оно на имя не президента или «председателя палаты представителей», а председателя Верховного Совета XIII созыва. Верховный Совет, по словам Тихини, является единственным легитимным законодательным органом Республики Беларусь.

Комментируя свое заявление, В.Тихиня подчеркнул, что, согласно действующей Конституции, принять отставку может не Президиум, а только весь Верховный Совет, когда соберется правомочным составом. (Добавим от себя, что если это произойдет, то исчезнут причины для отставки.) Заявление отнюдь нельзя рассматривать как уход от борьбы: до тех пор, пока отставка не будет принята надлежащим образом, Тихиня намерен оставаться на своем посту. Это положение не изменится, если решение об отставке Тихини примет «палата» или президент своим указом.

*«Как председатель КС я не сложил свои полномочия,* — подчеркнул В.Тихиня, — *и до тех пор, пока заявление не будет принято правовым, конституционным путем, я буду работать».* В.Тихиня объяснил, что никоим образом не мог подать заявление на имя «председателя палаты», т.к. не желает *«легализировать деятельность так называемого национального собрания»*. Оставит свое рабочее место В.Тихиня только в том случае, если его *«вынесут на руках, а на КС повесят амбарный замок»;* отметив, что прецеденты такого рода уже созданы (с оппозиционными депутатами ВС прошлого созыва и председателем Центризбиркома В.Гончаром), Валерий Гурьевич заявил, что и в этом случае продолжит свою деятельность.

*(Працяг на стар. 4)*

# Беларускаму спецназу ад братняй КНДР

**Міністэрства ўнутраных справаў Беларусі збіраецца закупіць чарговую партыю дубінак.**

Перамовы на гэты конт вядуцца з адной польскай фірмай, якая займаецца продажам спецамуніцыі. Сёння, 6 снежня, у Мінску абодва бакі плануюць падпісаць кантракт.

Дарэчы, некалькі тысячаў паліцэйскіх шчытоў, з якімі спецназ выходзіць на вуліцы беларускай сталіцы супраць мірных дэманстрантаў, былі закупленыя ў Паўночнай Карэі.

**Валодзя ЯНЧУК**

*На здымку: мінскі спецназ з КНДРаўскімі шчытамі.*

# Рэпрэсіі супраць адваката

**У дзень «усенароднага рэферэндуму» ў Мінску быў арыштаваны адвакат Арсеній Скаруліс.**

Ён апынуўся ў раёне ГУМа, калі там праходзіла дэманстрацыя пратэсту супраць парушэння Канстытуцыі. Некалькі чалавек у цывільным схапілі маладога праваабаронцу пад рукі, пасадзілі ў машыну і даставілі ў камеру прыёмніка-размеркавальніка, дзе А.Скаруліс мусіў прасядзець цэлыя суткі.

На наступны дзень адваката адвезлі ў суд Маскоўскага раёна г.Мінска, дзе абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным шэсці і парушэнні закона аб рэферэндуме. У выніку ён быў аштрафаваны на 1 мільён рублёў.

Сп.Скаруліс не выключае, што гэтае судовае рашэнне з'яўляецца помстай уладаў за ягоную праваабарончую дзейнасць.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Цесавец ігнаруе Пракуратуру

**Пракуратура РБ працягвае следства па крымінальнай справе, узбуджанай 16 лістапада па факце прымянення фізічнай сілы да дэпутатаў Вярхоўнага Савета і зрыве работы Цэнтрвыбаркама.**

Справу вядзе следчы Сяргей Вашкевіч. Аднак многія асобы не з'явіліся ў Пракуратуру для дачы паказанняў. Выклікалі і будуць выклікаць начальніка Галоўнага ўпраўлення дзяржаховы пры прэзідэнце палкоўніка Міхаіла Цесаўца, які кіраваў сілавой акцыяй у Цэнтрвыбаркаме.

Тым часам Генеральны пракурор Васіль Капітан, які ўзбудзіў гэтую крымінальную справу, ужо другі тыдзень знаходзіцца ў бальніцы.

**А.Д.**

# Кадзіла канфіскавалі

**Кіраўнік мінскага рок-гурта «ОХР» Міхась Шупенька 2 снежня выганяў злых дэманаў канстытуцыі з будынку прэзідэнцкай адміністрацыі.**

Выглядала гэта так: з кадзілам у руках і чырвонай накідкай на плячах малады музыкант спакойна абыходзіў круг за кругам будынак лукашэнкавай рэзідэнцыі, а ягоны прыяцель Дзяніс Новікаў здымаў акцыю на відэа. Спачатку міліцыя забрала апаратара, потым зацягнулі ў пастарунак і самога Шупеньку. Хлопцаў прапрымалі чатыры гадзіны, склалі пратакол і выпусцілі, але відэакамеру, відэастужку, кадзіла і накідку сканфіскавалі. На наступны дзень іх зноў выклікалі ў міліцыю («для размовы») і вярнулі відэакамеру.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

ФАКТЫ

# Арышты на вуліцах Мінска

**Сёння мы працягваем публікацыю хронікі міліцэйскага палявання на людзей ў Мінску (пачатак хронікі ў СВАБОДЗЕ №92 ад 3 снежня 1996 г.)**

***СКАРАБАГАТАЎ В.І.*** — заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, саліст опернага тэатра. 17 лістапада 1996 г. падчас правядзення дэманстрацыі разам з Каржанеўскай Г.Б. і Неўдахам У. на тралейбусе вяртаўся з касцёла св. Сымона і Алены і з прычыны спынення тралейбуснага руху выпадкова апынуўся паміж кардонамі міліцыі каля паштамта. Гаварылі па-беларуску. Пасля разблакіроўкі кардона на рагу пл.Свабоды (каля кафетэрыя «Пінгвін») быў спынены разам з Каржанеўскай Г.Б. чатырма людзьмі ў цывільным. Імі былі запатрабаваныя дакументы, пацярпеламу заламалі руку і запіхнулі ва УАЗік. (Нумар машыны МН 7614; як высветлілася пазней, у міліцыі не зарэгістраваны.) У Савецкім РАУС складзены пратакол, дзе запісана, што Скарабагатаў ***«нецэнзурна выражаўся ў адносінах да прэзідэнта, агітаваў натоўп да непадпарадкавання».*** У якасці тлумачэння оперны спявак мусіў напісаць, што ўжо 30 год «не выражаецца» і ўвогуле на вуліцах гучна не размаўляе, бо беражэ голас.

***НЕЎДАХ У.*** — арганіст, навучаецца ў аўстрыйскай кансерваторыі. 17 лістапада вяртаўся пасля выступлення з Чырвонага касцёла. Быў схоплены, закаваны ў наручнікі, па дарозе ў РАУС Цэнтральнага раёна, збіты.

***ЦВІРКА Аляксандр Яраслававіч*** — рабочы. 22 лістапада 1996 г. выходзіў з будынку педінстытута і быў схоплены невядомымі людзьмі ў цывільным. Запіхваючы яго ў белую «Волгу», стукнулі галавой аб дзверцы машыны. Па дарозе ў Маскоўскі РАУС збівалі, забралі пашпарт. У РАУСе стала блага. Быў адвезены ў 10-ю клінічную бальніцу, дзе ўстаноўлены дыягназ траўмы галаўнога мозга, закрытая чэрапна-мазгавая траўма. Знаходзіўся ў бальніцы 9 дзён. Пашпарт дагэтуль не вернуты.

***ПАТАПОВІЧ Зміцер, РАШЭТНІК Аляксей.*** 22 лістапада 1996 г. былі затрыманыя ў будынку педінстытута, завезены ў Маскоўскі РАУС, дзе быў складзены пратакол аб затрыманні.

КАДРЫ

# Пасажыр № 1 і ахова

# «Новыя» камуністы ўладкоўваюцца

**Чыноўнікі Магілёўскага гарвыканкама тэрмінова падшукваюць памяшканне для штаб-кватэры мясцовай арганізацыі Камуністычнай партыі Беларусі (КПБ).**

Як паведаміў адзін з супрацоўнікаў гарвыканкама, загад на пошукі спушчаны ім «з самага верху». Прычым, калі «новым» камуністам нешта спадабаецца, то трэба задаволіць іхняе пажаданне. Гэта значыць, калі выбранае памяшканне нехта займае, то павінен будзе выселіцца і шукаць новае прыстанішча.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Палітычныя актывісты дамовіліся

**У сераду, 4 снежня, у Варшаве дамову аб супрацоўніцтве падпісалі прадстаўнікі маладзёжнай фракцыі БНФ і маладыя польскія палітыкі з цэнтравых ды правых партыяў — Форуму маладых і Канфедэрацыі маладых.**

Згодна з падпісаным дакументам абодва бакі абавязваюцца супольна змагацца з парушэннямі законаў як у Польшчы, так і ў Беларусі і супрацьдзейнічаць таталітарным зрухам, якія пагражаюць дэмакратыі і незалежнасці ў абедзвюх краінах. У дамове ёсць таксама пункт аб пазапалітычным супрацоўніцтве маладых палітычных актывістаў з Польшчы і Беларусі. У прыватнасці, яны маюць намер арганізоўваць культурныя кантакты моладзі сярэдніх школаў.

**Марцін СМЯЛОЎСКІ**

# Чаму не едуць турысты?

**За дзевяць месяцаў гэтага года Беларусь наведала ўсяго 10 тысяч турыстаў.**

Гэтую лічбу прывёў на прэс-канферэнцыі ў Мінску пры адкрыцці міжнароднай выставы «Турбізнес-96» начальнік упраўлення Міністэрства спорту і турызму Беларусі Васіль Корзун.

*БелаПАН*

# «Паляпшэнне» па-магілёўску

**202 прадпрыемствы Магілёўскай вобласці дагэтуль не разлічыліся са сваімі работнікамі.**

На некаторых прадпрыемствах людзі не атрымлівалі заробак з верасня і нават — са жніўня. Агульная сума запазычанасці перавысіла 22 мільярды рублёў. Кіраўніцтва абласной вертыкалі добра ведае ўсё гэта, але на апошнім паседжанні аблвыканкама чамусьці было заяўлена, што жыццё насельніцтва вобласці *«палепшылася ў параўнанні з мінулым годам»*.

*БелаПАН*

# Малочная гарэлка?

**На Дзятлаўскім сыраварным заводзе збіраюцца выпрацоўваць спірт з малочнай сыраваткі.**

Спірт патрэбны, каб выпускаць гарэлку «Пасольскую» і моцныя настойкі. Але грошай на новы «праект» у завода няма, а вертыкаль таксама не дае, бо не мае. Так што з «Пасольскай» давядзецца пакуль пачакаць.

**А.А.**

# Зарплата в свободном падении

Официальная статистика и пропаганда утверждают, что доходы населения, в том числе и зарплата, в сравнении с прошлым годом увеличились, и будто бы растут каждый месяц. Причем, по их словам, речь идет о реальных доходах населения, то есть рассчитанных с учетом инфляции. Однако реальная картина говорит об обратном, что и подтвердили расчеты независимых экспертов.

Итак, для расчета были взяты официальные данные по средней заработной плате в целом по народному хозяйству Беларуси и по некоторым отраслям по состоянию на декабрь 1995 года и октябрь 1996 года. Рублевые значения средней зарплаты были пересчитаны в доллары, но не по официальному курсу, который так любим нашей статистикой, а по курсу внебиржевого межбанковского рынка, который является рыночным и довольно близок к курсу наличного доллара. На конец декабря 1995 доллар в среднем стоил около 11.500 BRB, в конце октября 1996 года — 20.000 BRB. Исходя из этого и получилось, что за десять прошедших месяцев падение уровня заработной платы в пересчете на доллары в среднем составило 32,1 процента *(см. таблицу)*. Если сравнить изменение доходов населения, которые включают в себя кроме зарплаты все виды доходов в денежной форме, в том числе и пенсии, пособия, доходы от реализации продукции личного хозяйства и т.п., то в целом доходы населения сократились на меньшую величину — немногим более 5 процентов. Однако здесь стоит отметить тот факт, что доходы населения в предновогодний месяц, учитывая разнообразные тринадцатые зарплаты и прочие выплаты традиционно превышают по своему размеру доходы обычных месяцев. К тому же вполне возможно, что доля доходов, получаемых не от государства и не в виде зарплаты, ощутимо возросла, в особенности от продажи продукции подсобных хозяйств.

| | Среднемесячная зарплата (в долларах США) | | Уровень падения зарплаты в сравнении с декабрем 1995 г. (в процентах) |
|---|---|---|---|
| | Декабрь 1995 г. | Октябрь 1996 г. | |
| В целом по народному хозяйству | 88,2 USD | 67,8 USD | -23,1% |
| промышленность | 96,9 | 70,2 | -18,3 |
| сельское хозяйство | 60,3 | 40,1 | -33,5 |
| транспорт | 106,6 | 85,9 | -19,4 |
| связь | 98,2 | 73,8 | -24,9 |
| строительство | 118,4 | 89,3 | -24,6 |
| торговля | 70,8 | 64,3 | -9,2 |
| материально-техническое снабжение и сбыт | 124,7 | 93,5 | -25 |
| здравоохранение | 74 | 64,6 | -12,7 |
| образование | 69,1 | 59,1 | -14,5 |
| культура | 60,1 | 51,2 | -15,2 |
| наука | 112,9 | 74,7 | -33,8 |
| банки | 182,4 | 107,4 | -41,1 |
| аппарат органов госуправления | 145,3 | 85,1 | -41,4 |

Возвращаясь к зарплате стоит отметить, что наименьшая зарплата сейчас (как, впрочем, и в декабре прошлого года) у работников сельского хозяйства — 40 долларов в месяц. Но если у сельчан есть возможность хотя бы вести подсобное хозяйство или получать собственные продукты, то намного хуже работникам культуры и образования с зарплатой в 51 и 59 долларов соответственно. Иначе как издевательским отношением к людям подобные зарплаты охарактеризовать нельзя. Лидерами же по темпам падения своего заработка стали сотрудники госаппарата и банкиры — за 10 месяцев этого года их заработок упал на 41 процент. За ними следуют опять же работники сельского хозяйства, а так же науки, где зарплата упала на 33,5 и 33,8 процентов соответственно.

**Алесь САДОВСКИЙ**

# Нацбанк обещает: не выше 23.000 рублей за доллар

**В конце старого — начале нового года в Беларуси, похоже, уже становится традицией подводить печальные итоги и менять государственную политику в отношении национальной валюты.**

О будущем и нынешнем состоянии валютного рынка шла речь на встрече с журналистами руководителей валютно-экономического департамента Нацбанка, занимающихся данными проблемами.

В будущем году, согласно утвержденным Национальным банком «Основным направлениям денежно-кредитной политики на 1997 год» нас ожидает либерализация валютного рынка. Она будет подразумевать под собой введение свободного рыночного курсообразования, постепенную отмену обязательной продажи валюты предприятиями на межбанковской валютной бирже и прочие меры. Планируется, что биржевой курс будет поднят до рыночного значения за короткий отрезок времени, причем, по мнению представителей Нацбанка, это не приведет к большому скачку инфляции. По примерным оценкам, она вырастет не более чем на 3—5 процентов.

Столь малый рост может объясняться тем, что по льготному биржевому курсу (не выше 15.500 BRB, в то время как на внебиржевом рынке курс доллара около 23.000 BRB) на МВБ приобретается валюта лишь под покупку энергоносителей, зерна и в некоторой степени — медикаментов. Валюту на покупку остальных товаров приходится приобретать на внебиржевом рынке.

Планируется создать также золотовалютные резервы, которые на данный момент находятся, по словам представителей Нацбанка, на весьма низком уровне.

Что же касается возможности введения розничной продажи за СКВ бензина, вопрос о котором рассматривается г-ном Лукашенко, то к этому Национальный банк, как выяснилось, не имеет никакого отношения — эта идея исходит либо из правительства, либо из администрации президента. Хотя и в Нацбанке существует мнение, что в нынешних условиях возможно ввести продажу прежде всего дорогих товаров, предметов роскоши и т.п. за валюту, а не за рубли.

По мнению специалистов Национального банка, реальный (рыночный) курс белорусского рубля вряд ли превысит к концу года отметку в 23.000 рублей, прежде всего благодаря тому, что на наличном рынке перед окончанием года начинается период массового предпраздничного сброса валюты населением.

Сейчас, как известно, существуют определенные рамки допустимого курса наличного доллара — не выше 20.150 BRB, однако некоторые банки выходят за них. Например, при покупке у клиента долларов происходит следующая операция. Банк за доллары вначале отдает клиенту не белорусские рубли, а какие-нибудь голландские гульдены, ограничений на курс которых к доллару не установлено. После этого сразу же гульдены покупаются за белорусские рубли, которые окончательно и остаются в собственности клиента. Это позволяет банкам устанавливать любой курс.

Более того, по мнению специалистов Национального банка, это вполне допустимая операция, при условии, что эти голландские гульдены в обязательном порядке в его руки даются клиенту. Если же сразу в руки отдается сумма в белорусских рублях — то это нарушение порядка ведения кассовых операций со всеми вытекающими отсюда последствиями. К тому же необходимо отражение подобной двойной операции в бухгалтерском учете.

Что же касается многочисленных писем в адрес Национального банка по поводу различных нарушений со стороны обменных пунктов, в том числе и обыкновенного утаивания валюты — то здесь возможности Нацбанка ограничены. Несмотря на то, что он может применить к нарушителям самые жесткие меры, вплоть до отзыва лицензии, дающей право заниматься валютообменными операциями, для их применения необходимо, чтобы контролер Нацбанка непосредственно «схватил за руку» кассира. В ситуации же, когда слово кассира стоит против слова клиента, Нацбанк бессилен.

**Ян ГАЛЕВИЧ**

# Опять водка

**Как и следовало ожидать, «выравнивание» цен оказалось неизбежным — с 3 декабря розничные цены на спирт и водку увеличились на 15%.**

Власти верны избранной «хитрой» тактике постепенного роста цен — начиная с ноября это стало уже третьим подорожанием, и вполне возможно, не последним. Объясняется оно увеличением издержек на закупку сырья, в частности, зерна, цены на которое в последнее время резко возросли из-за неурожая в Украине. В принципе, учитывая, что в цене «божественного напитка» 80% составляет акциз, государство могло и не увеличивать цены, несколько умерив свои аппетиты. Однако предстоящие закупки населением водки перед Новым годом не могли не простимулировать принятие решения о повышении цен.

Тем не менее о том, чтобы народ не спивался под Новый год, заботится сам президент и теперь наиболее популярные «Белую Русь» (0,5 л) придется покупать за 33.900 рублей (ранее — 29.500 рублей), «Крышталь-100» — за 31.200 рублей (ранее — 27.100 рублей), «Пшеничную» — 29.900 рублей (ранее — 26.000 рублей).

**Алесь САДОВСКИЙ**



РЭГІЁН

# Самае моднае слова – «стабілізацыя»

*Пасля рэферэндумнага трыумфа вертыкалі ў Гродне сабралася сесія абласнога савета*

Сімвалічна, што на 44 дэпутаты было ў 4-5 разоў больш публікі — пераважна чыноўнікі вертыкалі. Такім чынам, пасля ліквідацыі парламента яшчэ больш відавочнай стала мізэрнасць ролі мясцовых саветаў, пэўная іхняя тэатральнасць.

Сесія нагадвала сход пераможцаў. Была нават спроба пахваліцца эканамічнымі вынікамі, але выглядала гэта надта неперааканаўча, пакольё крызіс паглыбляецца і супрацьстаяць яму на абласным узроўні — справа марная. Напрыклад, у дакладзе адзначалася стабільная работа на працягу ўсяго года гродзенскага завода «БелТАПАЗ». Але далей высветлілася, што на гэтым прадпрыемстве ледзьве не самыя вялікія ў горадзе запасы нерэалізаванай прадукцыі — 25,7%. Дык каму патрэбна такая «стабільная работа»? Хіба што вертыкалі, каб можна было адрапартаваць аб павышэнні валавай прадукцыі на 4%! Маўляў, справы пайшлі ўгору, і на Гродзеншчыне адбываецца ледзьве не «эканамічны цуд».

Напярэдадні сесіі дэпутатаў вазілі па прадпрыемствах горада, каб хоць чым-небудзь пахваліцца. Але што яны ўбачылі і пачулі? На камбінаце будаўнічых матэрыялаў прыбыткі па-сутнасці нулявыя, бо ўсё, што ўдаецца зарабіць, ідзе на аплату падаткаў. На прадзіўна-ніткавым аб'яднанні працуе толькі адна змена, і тое збольшага дзякуючы заказам на выраб вайсковай і міліцэйскай формы. Самая лепшая сітуацыя, бадай, на аб'яднанні «Азот», але і там, каб выжыць, залажылі частку асноўных фондаў. Праўда, «Азоту» і некаторым іншым прадпрыемствам удаецца экспартаваць сваю прадукцыю. Але зарабляць долары ім даводзіцца пераважна дзякуючы дэмпінгавым цэнам.

Пра які эканамічны ўздым можна гаварыць, калі на большасці прадпрыемстваў вобласці вытворчыя фонды зношаныя на 50-60%, а на некаторых — больш чым на 70%? Выраб на састарэлым абсталяванні канкурэнтназдольнай прадукцыі сапраўды стаў бы цудам. Невыпадкова ж на прадпрыемствах лёгкай прамысловасці працягваецца моцны спад. Напрыклад, выпуск тканін і абутку ў вобласці зменшыўся сёлета на 34% і склаў 44 працэнты.

Тым жа часам на высокі сабекошт уплывае і тое, што асноўныя фонды (няхай і зношаныя) не выкарыстоўваюцца цалкам. А каб іх закансерваваць, патрэбны афіцыйны дазвол, які не заўсёды лёгка атрымаць. Увогуле на прадпрыемствах не выкарыстоўваюцца сёння вялікія плошчы. Каб гэтыя плошчы не прападалі, можна было б перадаваць іх у арэнду або ствараць тут сумесныя прадпрыемствы. Аднак уласных грошай няма, як і няма інвестараў, згодных рызыкаваць сваімі капіталамі ва ўмовах эканамічнай і палітычнай нестабільнасці.

Вельмі паказальным у гэтым сэнсе было выступленне на абласной сесіі генеральнага дырэктара «Ваўкавыскцэмэнташыфера» В.Данешчыка. Пачаў ён з дыфірамбаў. Маўляў, вось адбыўся рэферэндум — *«падзея вялікай важнасці, інтрыгі закончацца, і мы пачнем...»*. «Выпускаць цэмент, — пажартаваў нехта з месца і дадаў, — калі печы стаяць пагашанымі». Аднак сп. Данешчык аказаўся не такім ужо наіўным. Ён сказаў, што трэба каб зараз у дзяржаве першынства было ў Закона, які павінны аднолькава паважаць і прэзідэнт, і грамадзяне, бо *«прэзідэнты прыходзяць і сыходзяць, а законы застаюцца і правілы гульны таксама»*. Вось чаму добра было б нарэшце пачаць жыць *«не толькі па рашэннях і ўказах, якія прынімаюцца і адмяняюцца»*.

А праблема ў сп.Данешчыка як генеральнага дырэктара наступная. Цэментнаму заводу ўжо 85 гадоў, патрэбна новае абсталяванне, але браць крэдыты і расплачвацца па іх больш няма магчымасці. Ёсць замежныя інвестары — напрыклад, адна вядомая нарвежская фірма. Аднак нашы чыноўнікі тармозяць справу акцыянавання, бо дагэтуль, па словах генеральнага дырэктара, застаецца галоўным не Закон, а тэлефонны званок «зверху». Думаецца, аднак, што пасля ўсіх апошніх палітычных падзей у Беларусі і вакол яе нарвежцы самі адмовяцца ад перспектывы рызыкаваць капіталам у такой нестабільнай краіне. Усё ў рэшце рэшт адбываецца паводле прагнозу, які быў выказаны на сесіі: дзяржава, імкнучыся сёння пабольш спагнаць з прадпрыемстваў падаткаў, заўтра можа нічога не атрымаць.

У такой сітуацыі вельмі наіўнай выглядае спроба вертыкалі падмануць хоць бы самую сябе. У дакладзе, у выступленнях, у апошніх рашэннях аблвыканкама надзвычай часта фігуруе слова «стабільнасць» у розных варыяцыях, якое робіцца такім жа пустым, як некалі «перабудова». Чутныя таксама заклікі «мабілізаваць усе рэзервы» і г.д. Усё гэта ўжо было, але толку — ніякага. Зноў прыгадваецца прыказка: колькі не вымаўляй слова «халва», у роце ад гэтага салодка не стане.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

СВАБОДА
6 снежня 1996 г., № 93

# Тихиня прощается, но не уходит

## *Председатель КС подал заявление об отставке, принять которую некому*

(Пачатак на стар. 2)

На пресс-конференции председателя КС никак нельзя было обойти и вопрос о том, почему принципиальная позиция В.Тихини сильно поколебалась в момент и после подписания известного соглашения. В.Тихиня объяснился как умел; приведем суть этих объяснений без оценок, лишь с небольшими комментариями. Приводя свои объяснения, В.Тихиня заметил, что сегодня, находясь в ранге председателя КС, он не может рассказать все, в том числе давать политические оценки — *«но я боялся, чтобы у нас не пролилась кровь; события могли развиваться и в этом направлении».*

Итак, по словам Валерия Гурьевича, 19 ноября, когда он дважды встречался с А.Лукашенко, он привел множество доводов в подтверждение того, что *«признать легитимными результаты этого референдума нельзя»*. По итогам этих встреч В.Тихиня *«был убежден, что посеял серьезные сомнения в душе президента. Он просил: дайте мне 2 дня на раздумья»*. Спустя 2 дня, в ночь на 22 ноября, В.Тихиня получил приглашение на переговоры от руководителей двух ветвей власти и не мог от них отказаться — тем более, что *«исходил из того, что Лукашенко не посмеет пойти на придание результатам консультативного референдума обязательного характера»*.

Подписанное соглашение В.Тихиня и ныне не считает капитуляцией — напротив, он уверен, что это был *«не лучший, но цивилизованный выход»* по принципу «худой мир лучше доброй ссоры». Таким образом, коль скоро Лукашенко был готов отозвать оба указа, провозглашающих обязательный характер референдума, то можно было бы прекращать производство по делу об импичменте. Вряд ли можно в данном случае признать аргументацию В.Тихини основательной — в заявлении депутатов об импичменте речь шла вовсе не о двух, а обо всех антиконституционных указах Лукашенко. Что же касается принятия лукашенковской конституции на «конституционном собрании», где Лукашенко по соглашению имел прочное большинство, то В.Тихиня уверен: *«соглашение не давало президенту никаких преимуществ»*, поскольку в нем не указано, что решения принимаются именно простым большинством — в законе, мол, можно было потом уточнить, что большинство должно быть квалифицированное, в 2/3, чего у Лукашенко не было. Все это можно подытожить разве что еще одним высказыванием Валерия Гурьевича: *«Я не исключаю, что был идеалистом»*.

В общем, как заявил В.Тихиня — участвуя в переговорах и подписывая соглашение, он *«не пошел на сделку со своей совестью»* и сделал всё, что в его силах и его компетенции, чтобы *«достичь компромисса, основанного на законе»*, хотя это и *«не привело к позитивным результатам»*.

По второму весьма уязвимому моменту — прекращению Судом дела об отстранении президента — В.Тихиня сказал, что сначала дело было отложено *«во имя сохранения гражданского мира и согласия в нашем обществе»*, а потом в условиях, когда депутатских подписей осталось меньше 70, КС принял единственно возможное правовое решение. Вопреки мнению своего коллеги М.Пастухова, председатель КС считает, что *«требование наличия не менее 70 подписей должно быть соблюдено не только на момент возбуждения производства по делу, но и при рассмотрении дела по существу»*.

Валерий Гурьевич обратил особое внимание на то, что с правовой точки зрения и теперь *«в нашем государстве действует Конституция 1994 г. без каких-либо дополнений и изменений»*. По лукашенковскому же варианту в Беларуси *«устанавливается диктатура одной личности с неограниченными полномочиями: есть одна ветвь власти — исполнительная, а остальные — это жалкие придатки»*. Во время пресс-конференции В.Тихиня неоднократно назвал лукашенковскую конституцию «галиматьей» и охарактеризовал устанавливаемое теперь положение как *«тоталитарный режим в центре Европы»*.

В.Тихиня выразил искреннюю признательность международным организациям — в частности, ОБСЕ, Госдепартаменту США, Парламентской ассамблее Совета Европы — за *«моральную поддержку, которая вдохновляет меня и моих коллег сражаться против того, что произошло»*. Валерий Гурьевич сообщил: *«Я направил информацию, что мною подано заявление об отставке, председателю Конституционного трибунала Польши, который является президентом Совета Конституционных судов Европы»*. В ответе президента, который был зачитан на пресс-конференции, выражаются глубокое уважение и солидарность с В.Тихиней, тревога о судьбе демократии, гражданских прав и свобод в Республике Беларусь, пожелание, чтобы Беларусь развивалась *«как государство, принадлежащее к числу независимых государств объединенной Европы»*. *«То, что случилось в Лиссабоне – это только цветочки. С этой «конституцией» Беларусь останется в полной международной изоляции»*, — заявил В.Тихиня.

В.Тихиня подчеркнул, что Конституционный суд в нынешнем составе имеет конкретный план действий на ближайшее время (хотя и не стал пока уточнять, какие именно действия намерен совершить КС).

В.Тихиня заявил, что теперешняя победа Лукашенко — *«это пиррова победа, и очень скоро сам Лукашенко в этом убедится»*. *«Сейчас ситуация значительно сложнее, чем была до 24 ноября, но и сегодня ее можно разрешить правовым путем»*, — заметил Валерий Гурьевич и призвал Лукашенко «вернуться в правовое поле». И хотя это равносильно тому, как призывать неандертальца, размахивающего в чистом поле дубиной, перейти в поле правовое — согласимся с В.Тихиней в том, что *«даже в условиях правовой мглы нельзя терять веру и надежду»*.

Вместе с В.Тихиней заявление на имя С.Шарецкого об отставке подали также конституционные судьи А.Вашкевич и М.Пастухов. В заявлении последнего отмечается, что лукашенковская «конституция» принята «с грубейшими нарушениями законодательства» и в Беларуси «утверждается единоличная власть президента».

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

*На здымку: канстытуцыйныя суддзі М.Пастухоў, В.Фадзееў, С.Цішкевіч і В.Ціхіня.*

Любое поражение всегда неприятно само по себе. Тем более, если целую неделю ситуация висела на волоске, чаши весов колебались. Временами (например после отставки Чигиря) казалось, что еще чуть-чуть и режим рухнет. У Лукашенко заметно поубавилось оптимизма, пропал блеск в глазах, изменился голос. Некоторые сподвижники предусмотрительно слегли в больницу в ожидании окончательной развязки. Но не дотянули, не получилось.

**Владимир ДОРОХОВ**

# Почему это стало возможным?

При всей трагикомичности нашей сегодняшней действительности, воспринимаемой не иначе как дурной сон, никуда не уйти от ответов, почему сие оказалось возможно, дабы в последствии ничто подобное не повторилось. Ответ прост: грубого, циничного профессионала, не брезгующего самыми грязными приемами, хотели победить непростительно наивные интеллигенты-любители. Соответственно и говорить, что Лукашенко выиграл несправедливо, абстрагируясь от первобытной технологии самого успеха, значит говорить явную неправду. Выиграл тот, кто более этого желал, был готов к этому и прилагал максимум усилий.

На протяжениии нескольких месяцев в администрации круглые сутки кипела работа — да, пусть на примитивном уровне и с участием лиц, квалификация и репутация коих давно и ни у кого не вызывает сомнений. Но это как раз и есть попытка профессионального занятия политикой на доступном для участников самого процесса уровне. Оппозиция же видимо считала, что находится в какой-нибудь сентиментальной Австрии, где обращаться с нею будут исключительно в точном сооответствии с уставом института благородных девиц или же моральным кодексом строителя коммунизма. Вечером все спокойно отправлялись домой, выпивали чай с лимоном и с чистой совестью ложились спать. Я отнюдь не требую от «лукашенконенавистников», т.е. граждан здравомыслящих, непрерывных ночных бдений на рабочем месте. Важно здесь иное — понимание, что публичная политика есть материя предельно серьезная, подразумевающая наличие у ее субъектов наряду с высокой интеллектуальной подготовкой еще и умения ежедневно и кропотливо трудиться, опережая оппонента хотя бы на шаг, а не только пассивно реагируя на его идиотские ходы. Ужасающий дилетантизм большинства нынешней политэлиты (а иной, к сожалению, нет и покуда не предвидится) одновременно и трагедия посткоммунистической Беларуси и основная стратегическая причина той национальной катастрофы, которая ныне у нас имеет место и значение чего до сих пор еще не осознано. Все остальное — локальные эпизодические следствия. Обозначим наиболее важные их пики, поскольку работа над ошибкам, тем паче собственными, никогда и никому не вредила.

**1. Задержка с проведением довыборов в ВС**, которые необходимо было осуществить не позднее прошедшей весны—лета, ну уж никак не дожидаться, когда Лукашенко на свет Божий опять достанет безотказную дубину референдума. Наверняка новые депутаты, прежде всего представляющие Минск и другие крупные города, серьезно повлияли бы на изменение расстановки сил в стенах парламента и облегчили бы проведение решений, блокирование президентских инициатив. Вспомним, что порой для принятия принципиальных документов не хватало одного-двух голосов.

**2. Пассивность демократов в стенах ВС**, где присутствовало немало потенциально возможных союзников оппозиции из числа «красных капиталистов» — директоров крупных приватизированных и госпредприятий. За последний год ряды противников президента совсем не расширились, хотя некоторые генералы промышленности давно были внутренне готовы к этому шагу, находясь во фракции «Согласие» чисто номинально, из соображений безопасности, и понимая бесперспективность политики режима, особенно экономической.

**3. Организационная безалаберность** — фирменная болезнь всех демократов. Так и не были сделаны элементарнейшие для любой реальной оппозиции шаги — создание интеллектуального и пропагандистского обеспечения деятельности. Доселе не существует ни группы экспертов, ни ежедневной общенациональной газеты. Не удивительно, что в решающий момент не оказалось ни тех, кто толково предложит нужную модель поведения, да и ряды вышедших на площадь поддержать демократию не отличались особой многочисленностью.

**4. Полный провал российской политики**, а именно сохранение до последнего надежд на помощь Москвы, имевшей в Беларуси свой твердый интерес и особо не скрывавшей объекта направленности своих симпатий. Возможности РФ «поставить на место» Лукашенко достаточно ограничены и, если его художества не затрагивают их непосредственно, Москва предпочитает не реагировать. Убедить же, что оппозиционеры — большие интеграторы, чем сам Лукашенко Россию не удалось, о чем собственно и не стоит сильно расстраиваться. Важнее иное — объяснить властным московским кланам простую истину — сегодня Лукашенко уже проблема не столько наша, сколько их самих, т.к. в Беларуси «батьке» после 24 ноября нечем заняться.

**5. Тактические просчеты отдельных лиц.** Виктор Гончар проявил роковую несдержанность, преждевременно бросившись в бой. Его можно понять как джентльмена, законника и искреннего человека, вышедшего на противника с открытым забралом. Но никак нельзя оправдать как серьезного политика, не умеющего выжидать удобного момента для наступления. Бросаться на амбразуру насколько внешне эффектно, настолько глупо с точки зрения конечного результата. Чего уж проще — тихо сиди и скурпулезно фиксируй все нарушения закона без пресс-конференций, интервью и прочих шумных акций. А 25 ноября спокойно выложи накопившиеся козыри на стол — вот так, братцы, итоговый протокол не подпишу, документы направлю в прокуратуру. Пускай тогда снимают с должности, не пускают в здание ЦИКа — дело сделано, референдум официально признан незаконным уполномоченным на то соответствующим государственным органом.

Сколько уже сказано по поводу ночных переговоров и печально знаменитого Соглашения. Случившееся стало возможно, т.к. кроме Лукашенко никто не представлял, зачем все затеяно и что ему нужно от переговоров, и не не совсем адекватно оценивал свою роль. В.Тихине очень хотелось примерить тогу миротворца, как оказалось, на любых условиях, даже несмотря на отсутствие подлинного мира. С.Шарецкий же почему-то воспринял поведение Тихини как банальную сдачу и в одиночку не смог выдержать напор Лукашенко. Обоим, порядочным людям и слабым политикам старой закалки не хватило немного — воли и твердости. Нынче старых компартийных качеств недостаточно, требуется нечто иное — умение при случае стукнуть кулаком по столу, внятно сказать однозначное «нет» и громко хлопнуть дверью.

Проблема выдвижения из рядов оппозиции одного признанного всеми авторитетного лидера первостепенна и должна быть решена немедленно, чтобы через 3-4 месяца опять не пришлось посыпать голову пеплом после подписания очередного Мюнхена. Никто не спорил, что Шарецкий как спикер есть фигура компромиссная, хорошая при налаженной работе и непригодная к жесткой борьбе на результат. Потенциальные же лидеры демократов — Г.Карпенко и П.Кравченко, на будущее им наука, просидев всю ночь с журналистами в предбаннике без дела, не смогли попасть за стол переговоров. Хотя прекрасно понимали, что один Шарецкий не выдержит давления Лукашенко.

Болезни, и людские, и общественные, беспричинно не возникают и добровольно не уходят. На всем пространстве бывшего СССР опасно ослаблен гражданский иммунитет, инстинкт самосохранения *homo sapiens*. Смутные времена всегда порождают неизвестные инфекции. Лукашизм — социально-политическая раковая опухоль, метастазы которой распространяются в разные стороны очень быстро только в том случае, когда не встречают серьезных препятствий. Видимо, Беларуси надобно сполна пройти суровый этап постижения социальной науки — приобретение универсальной прививки от доверчивости к мессиям-проходимцам. Не стоит впадать в меланхолию — законы физиологии функционируют так же безотказно, как физики и химии. Ежели постижение прописных истин не доходит традиционным способом мышления — быстрее получится через желудок и спинной мозг.

